ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ

# КНІГА НОША

№ 52
кастрычнік, 2018

ЗАСНАВАЛЬНІКІ: ГА"САЮЗ БЕЛАРУСКІХ ПІСЬМЕННІКАЎ", МГА"ЗБС"БАЦЬКАЎШЧЫНА"

**АЎТОГРАФ**

## Галіна БАГДАНАВА:

# «Мастак мусіць быць суаўтарам пісьменніка...»

**– Шаноўная Галіна Барысаўна, Вы пачыналі як празаік, выдалі некалькі кніг прозы, апошняя з якіх выйшла ў 2010 годзе. Чым выклікана такое доўгае маўчанне? Распавядзіце, калі ласка, над чым Вы цяпер працуеце?**

– Дзякуй за магчымасць звярнуцца да чытачоў. Апошнія гады я працавала так бы мовіць, не кампазітарам, не выканаўцам, а наладчыкам піяніна. Вельмі захапілася выкладчыцкаю працай. І шчыра дапамагала стаць на крыло і пісьменнікам, і мастакам, і мастацтвазнаўцам. Мае вучні выдаюць кнігі, абаранілі кандыдацкія дысертацыі, атрымалі Нацыянальныя прэміі па выяўленчым мастацтве, ладзяць выстаўкі… Разам з Барысам Пятровічам, Таццянай Барадуляй падрыхтавалі дзве кнігі майго бацькі Барыса Сачанкі, зборнік паэзіі і прозы маёй сястры Святланы Явар. Цяпер вяду перамовы пра выданне кніжачак для самых маленькіх, рыхтую да выдання надрукаваны ў «Маладосці» мой раман «Паляванне на Любаву», апрацоўваю свае рукапісы (там і проза, і эсэ). І па-ранейшаму шчыра працую... наладчыкам піяніна.


фота www.lit-bel.org.

**– Сапраўды, у апошнія гады Вы ўклалі дзве кнігі – Вашага бацькі і сястры. Гэта было перачытанне іх твораў праз гады. Што Вас па-новаму ўразіла, што стала адкрыццём?**

– Усё, што там змешчана, зразумела, чытала і да таго (апроч перапіскі бацькі). Хацелася, каб найхутчэй бацькавы словы пачулі іншыя. Таму, перачытваючы, больш хвалявалася, уяўляла, як яго зразумее новае пакаленне. Але моладзь цяпер жыве і працуе, калі можна так сказаць, на ягонай хвалі. Прынамсі, тыя, з кім кантактую.

*(Працяг на стар. 7)*

**Даведка «Кніганошы»:**

**Галіна Багданава – пісьменніца. Аўтар кніг прозы «Папяровыя замкі» (1990), «Чалавек без адраса» (1991), «Дом іхняе мары» (1994), «Сакрамэнта» (2010), кнігі паэзіі для дзяцей «Чароўны абрус» (1999) ды інш. Нарадзілася ў 1961 годзе ў Крычаве. Жыве ў Мінску.**

## ■ МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА




**Явар Святлана. Дзівосны сад: выбранае. Уклад. Т. Барадулі. – Мінск: Кнігазбор, 2018. – 276 с. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка»; вып. 108).**

У гэтай кнізе Святланы Явар (Сачанкі) упершыню сабраныя пад адной вокладкай паэтычныя і празаічныя творы пісьменніцы, што дае магчымасць адчуць усю глыбіню яе найтанчэйшай повязі з жыццём і вышыню яе памкненняў, напраўду містычных прасвятленняў.




**Замкоўскі Алесь. Наступны прыпынак: вершы. – Мінск: Кнігазбор, 2018. – 128 с. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка»; вып. 109).**

Дэбютны зборнік вершаў Алеся Замкоўскага – гэта лірычны відарыс узнёслых вандровак неспакойнай душы аўтара па свеце пачуццяў, роздумаў, трызненняў і мар. Сонца, поўня, неба, зоры, вада, вясна, восень, зіма, дзень і ноч, анёлы, каханая – яго галоўныя спадарожнікі на абраным паэтычным шляху. Зборнік складаюць вершы, напісаныя на працягу апошніх 15 гадоў.




**Пракаповіч Мікола. Прытулак памяці: вершы, паэмы. – Мінск: Кнігазбор, 2018. – 260 с. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка»; вып. 110).**

Вершы, сабраныя ў гэтай кнізе з нешматлікіх зборнікаў розных гадоў, – гэта адбіткі шляху душы. А для аўтара – яшчэ і прытулак памяці. Бо за кожным вершам – ці жыццёвая сітуацыя, ці шчаслівая сустрэча, ці роздум на самоце. Магчыма, і ў чытача яны закрануць нейкія запаветныя струны, адгукнуцца радасцю ці болем, паклічуць да сумоўя.




**Ярац Віктар. Зямныя эцюды: лірыка. – Мінск: Кнігазбор, 2018. – 92 с. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка»; вып. 111).**

У кнігу «Зямныя эцюды», выхад якой прымеркаваны да 70-годдзя аўтара, увайшлі новыя вершы паэта, у якіх новыя перажыванні і фарбы настрояў, а таксама – адноўленыя ўспаміны аб пройдзеным ды перажытым.

**Жырандоля: літаратурны альманах. Брэст. № 10, 2018. – Мінск: Кнігазбор, 2018. – 232 с.**




Юбілейны дзясяты выпуск альманаха Брэсцкага абласнога аддзялення грамадскага аб'яднання «Саюз беларускіх пісьменнікаў» прысвечаны светлай памяці яго заснавальніцы Ніны Мацяш. У паэтычным раздзеле публікуюцца творы Аляксея Белага, Васіля Ермашука, Ірыны Ляшкевіч, Ігара Сідарука, Ярыны Дашынай і інш. З празаічнымі творамі друкуюцца Павал Ляхновіч, Вадзім Жылко, Мікола Ільючык, Яўген Бяласін, і інш. У раздзеле «Краязнаўства» змешчаныя артыкулы Алеся Зайкі і Міколы Аляксандрава. Раздзел «Памяць» утрымлівае артыкулы да юбілею Ніны Мацяш і Мікалая Цялічкі, а таксама ўспаміны Васіля Дэбіша пра Алеся Каско. У рубрыцы «Літаратуразнаўства» змешчаныя доследы Яўгена Бяласіна і Міколы Сянкевіча.




**Нурдквіст Свэн. Мітусня ў агародзе. Мастак Свэн Нурдквіст; пераклад са шведскай Надзеі Кандрусевіч. – Мінск: Кнігазбор, 2018. – 26 с.: іл. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка». Падсерыя «Каляровы ровар»; выпуск 26).**

Казка «Мітусня ў агародзе» расплавядае пра тое, як стары Пэтсан і коцік Фіндус увесну вырашылі пасадзіць гародніну – бульбу і моркву, гарох і фасолю, а таксама… катлеткі (гэта была цудоўная ідэя коціка) – і што з гэтага ў выніку атрымалася.




**Нурдквіст Свэн. Час пеўня. Мастак Свэн Нурдквіст; пераклад са шведскай Надзеі Кандрусевіч. – Мінск: Кнігазбор, 2018. – 30 с.: іл. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка». Падсерыя «Каляровы ровар»; выпуск 27).**

У Пэтсана ў куратніку жывуць дзесяць курэй. Коцік Фіндус часта дражніць ды ганяе іх. Але аднойчы Пэтсан прынёс курам пеўня. У гэтай кнізе маленькія чытачы даведаюцца гісторыю з'яўлення на падворку Пэтсана новага жыхара – пеўня Юсі, а таксама пра тое, чаму пеўні гучна кукарэкаюць і як наладзіць сяброўства паміж птушкамі і коцікам.




**Марціновіч Віктар. Ноч. – Мінск: Кнігазбор, 2018. – 412 с.**

Новая кніга Віктара Марціновіча ёсць рукапісам невядомага аўтара, што быў набыты Сацішам Сівачарыярам у бенгальскага крамніка за літр чыстай вады, пасму прадзіва і пару амаль не ношаных сланцаў. Рукапіс, спісаны незразумелымі кірылічнымі пісьмёнамі, быў дбайна перакладзены аўтарам знаходкі на ангельскую мову. Беларускі пісьменнік падрыхтаваў пераклад для выдання на радзіме з разлікам на шырокае кола чытачоў.




**Вінклер Філіп. Hool: раман. Пераклад з нямецкай Вадзіма Мохава. – Мінск: Кнігазбор, 2018. – 280 с.**

Хайка Кольбэ – правінцыял, які не давучыўся ў школе. Сын, маці якога збегла, кінуўшы іх з сястрой, а бацька стаў алкаголікам. Хлопец на падхваце ў трэнажорнай зале. Кватарант у доме крымінальніка, які арганізуе баі жывёл і найбольшая мара якога – набыць тыгра. Жыццё Хайка – гэта «хулс». Калі яго найлепшага сябра моцна збілі і ён захацеў выйсці з групоўкі, Хайка лічыць гэта здрадай. Бо наперадзе іх чакае новая гульня – паўфінальны матч за кубак Германіі – і новая бойка з заклятымі супернікамі з Браўншвайга. Філіп Вінклер паказвае нам іншы свет, які насамрэч суседнічае з намі, свет, мова якога жорсткая, а традыцыі бязлітасныя, свет няўдачнікаў і тых, хто неўзабаве імі стане.




**Сім Павел. Вір. – Мінск: Галіяфы, 2018. – 120 с.**

У зборніку «Вір» прадстаўлены выбраныя вершы 1997–2017 гадоў. Зборнік складаецца з чатырох тэматычных раздзелаў. У раздзел «Непаўторнае» ўвайшлі вершы пра нашу адзіную і непаўторную Бацькаўшчыну. «Музыка штодня» – гэта жыццёвыя перажыванні і думкі, якія прыходзяць кожны дзень пад уплывам розных падзей і эмоцый. Любоўная лірыка прадстаўлена ў раздзеле «У промнях пачуцця». Завяршаецца зборнік вянком англійскіх санетаў «Божае святло», у якім душэўныя перажыванні закаханага юнака пераплятаюцца з пошукам свайго жыццёвага шляху і імкненнем да чысціні і святла.




**Бычкоўскі Алесь. Дабрадзеі і гармідар квантавай літаратуры: аповесць і апавяданні. – Мінск: Галіяфы, 2018. – 162 с.**

Ці чулі вы, што ўсе выдуманыя сусветы існуюць насамрэч? І не толькі існуюць, але і дапамагаюць пісьменнікам, чытачам, а найперш аматарам казак і фэнтэзі. Ці вядома вам, што побач з намі жывуць паралельныя цывілізацыі разумных жывёл? Журналіст Тамаш Ян гэтаксама не ведаў, пакуль не ўлупіўся галавой у пень і не трапіў у карчму «Халодныя ногі» каля могілак. Анамальныя з'явы, ваўкалакі, тагасветныя пачвары пад абліччам вабных прыгажунь ды іншае ў новым зборніку Алеся Бычкоўскага «Дабрадзеі і гармідар квантавай літаратуры».




**Калядны Мікола. Судуманьне: аповесць. – Мінск: Галіяфы, 2018. – 132 с.**

Напісаная лексікай без мужчынскага і жаноцкага роду ў адзіночным ліку, аповесць малюе дзіўныя ўзаемадачыненні і касмічныя прыгоды разумных істотаў, паказвае цікавы фенаменальны свет бясплоцевых стварэнняў.




**Данеўская Ірына. Багуслаў Радзівіл: Нямецкі прынц з Вялікага Княства Літоўскага. Пер. з укр. Н. Бабінай. – Мінск: А.М. Янушкевіч, 2018. – 684 с.**

Гістарычны раман-эпапея ўкраінскай пісьменніцы Ірыны Данеўскай прысвечаны маладым гадам жыцця Багуслава Радзівіла – адной з самых загадкавых і супярэчлівых постацей у гісторыі Рэчы Паспалітай XVII стагоддзя. Прыгажун і адчайны каханак, небяспечны дуэлянт і тонкі палітык, дыпламат і адважны военачальнік, які асабіста прымаў удзел у бітвах Трыццацігадовай вайны, шведскага «Патопу» і Хмяльніччыны... Гэтая кніга дазволіць чытачу наведаць Англію часоў рэвалюцыі, Францыю эпохі Рышэльё і Мазарыні, Галандыю, Бельгію, Германію, Аўстрыю, Малдавію, Рэч Паспалітую, перажыць разам з героем прыгоды на моры і на сушы, пабыць шкаляром, а затым і студэнтам універсітэта, пасяліцца ў вайсковым лагеры, прыняць удзел у баях і паядынках, павесяліцца на балях і ў жаночых пакоях, папрактыкавацца ў палітычных інтрыгах і, нарэшце, бліжэй пазнаёміцца са славутымі асобамі сусветнай гісторыі.




**Шарова Юлія. Вяртанне Ліліт: астрапсіхалагічны раман у 4-х частках. – Мінск: А.М. Янушкевіч, 2018. – 292 с.**

Добрыя дзяўчынкі трапляюць у рай, а кепскія – у Беларусь. Як зрабіцца гаспадыняй уласнага лёсу і стаць шчаслівай там, дзе за цябе ўсё вырашылі на цэлую вечнасць наперад? Ліліт, першая жонка Адама, пакінула рай і не прыжылася ў пекле. За гэта Бог і Д'ябал змусілі яе падпісаць угоду, паводле якой Ліліт мусіць бясконца ўвасабляцца ў зямных жанчын і жыць сярод людзей. Пабадзяўшыся па свеце, Ліліт урэшце трапляе ў сучасны Мінск. Тут яна сустракае журналіста газеты «Наша Нядоля», які марыць пра літаратурную славу, папулярную блогерку, якая вучыць жанчын абуджаць у сабе Багіню, дэмана, які спакушае жанчын, ды анёла, які ўдзень працуе праграмістам і складае гараскопы, а ўначы гуляе па дахах. Таксама Ліліт сустракае вучонага ката, здольнага адрозніць оперы Вівальдзі ад італьянскага Гендэля, а яшчэ дзяўчыну-псіхолага, якой дапамагае раскрыць рэдкі дар з дапамогаю картаў Таро.




**Мінск назаўжды: гарадскія апавяданні. Уклад. М. Латышкевіч. – Мінск: А.М. Янушкевіч, 2018. – 164 с.: іл.**

Тэма Мінска ў сучаснай літаратуры набірае папулярнасць! Мінск як месца, Мінск як галоўны герой і як фон падзеяў, што іх вызначае. Мінск у любых праявах – але абавязкова ён. У межах спецпраекта кніжнага фестывалю «Горад і Кнігі» дзесяць ужо сталых у мастацкім плане аўтараў папрасілі напісаць апавяданні пра Мінск. А яшчэ на 10 апавяданняў быў абвешчаны конкурс для аўтараў-пачаткоўцаў. Усе яны сустрэліся пад адной вокладкай гэтага зборніка. Розныя аўтары, розныя тэмы, але адзін Мінск.

# ■ МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА




**Ліндэ Іда. 29 недасланых лістоў: вершы. Пер. са швед. Н.С. Паваляевай. – Мінск: А.М. Янушкевіч, 2018. – 32 с.**

У шведскім алфавіце 29 літар. Словы складаюцца з літар, а лісты – са словаў. Калі 29 літар дастаткова, каб утварыць бясконцае мноства словаў, 29 лістоў дастаткова, каб перадаць усю эмацыянальную палітру кахання, страты і гульняў памяці. У зборніку вершаў шведскай паэткі і пісьменніцы Іды Ліндэ няпэўна ўсё: і «я», і «ты» (ці гэта адное і тое ж «ты» ва ўсіх «лістах»? ці не размаўляе аўтар часам з уласным «я»?), і тыя падзеі, пра якія вядзецца размова (ці гэта ўсё рэальныя падзеі?). Падаецца, што гэтая татальная няпэўнасць і ёсць галоўным правілам гульні, да якой запрашаецца чытач. Менавіта ён павінен скласці пазл, упісаць свае радкі паміж радкамі аўтара – і праз тое атрымаць сваю ўласную гісторыю.




**Бахарэвіч Альгерд. Сабакі Еўропы: раман. – Вільня: Логвінаў, 2018 – 896 с.**

Новы раман Альгерда Бахарэвіча «Сабакі Еўропы» – шэсць вялікіх гісторый, сплеценых у адзін мудрагелісты вузел, разблытаць які не дасць рады ніхто. Прынамсі, на гэта спадзяецца аўтар. На амаль дзевяцістах старонках кнігі ўступаюць у складаныя алхімічныя рэакцыі гарады, сюжэты, людзі, алюзіі, словы. Што злучае вёску Белыя Росы-13, якая знаходзіцца на тэрыторыі Расійскага Рэйху, і constructed language, таемную мову бальбута? Чаму беларуская шаптуха выпраўляецца на далёкую выспу, дзе будуецца ідэальная краіна Крыўя? Што за пасланне закапалі ў лесе вучні звычайнай сярэдняй школы, і чый труп знаходзяць у 2049 годзе ў танным бэрлінскім гатэлі? Гэта толькі некалькі таямніцаў, якімі поўніцца кніга. «Час пісаць антыбестсэлер», – упэўнены аўтар «Сабак Еўропы», рамана-выкліку: чытачам, крытыкам, перакладчыкам, а найперш самому сабе.




**Гакл Эміль. Нормы камічных паводзін. Пер. з чэшскай Вольгі Патапавай, Сяргея Смятрычэнкі. – Вільня: Логвінаў, 2018 – 284 с.**

Раманы «Пра бацькоў і дзяцей» і «Нормы камічных паводзін», якія па-беларуску пад адной вокладкай выходзяць у выдавецтве «Логвінаў», звязваюць міжсобку постаці дзвюх асобаў – апавядальніка (у якім мы пазнаем многія рысы самога аўтара) і ягонага бацькі. У першым са згаданых раманаў чытач выпраўляецца на прагулку з галоўнымі героямі, у размовах якіх чаргуюцца ўспаміны, дзіцячыя траўмы ці каментары актуальных ды гістарычных падзей, і з усяго гэтага паўстае цэльны вобраз не толькі жыцця апавядальніка, але і ўсёй эпохі. Цэнтральнае месца ў другім рамане (яго дзеянне адбываецца на некалькі гадоў пазней), займае бацькава хвароба і смерць, якую сын пасвойму спрабуе адрэфлексаваць, выправіўшыся ў дэльту Дуная на пошукі сябе самога.




**Такарчук Вольга. Вядзі свой плуг праз косткі мёртвых. Пер. з польскай М. Шода. – Вільня: Логвінаў, 2018 – 330 с.**

Маральны трылер з крымінальнай загадкай, дэтэктыў без традыцыйнага следства. Галоўная гераіня – інжынер на пенсіі, настаўніца ангельскай мовы, экзальтаваная абаронца жывёльнага свету, аматарка паэзіі Уільяма Блэйка, карт Таро і астралогіі – ад самага пачатку ўпэўненая, што ведае, чаму ў акрузе адбываюцца забойствы мужчын, якія захапляюцца паляваннем. Але ёй ніхто не верыць – ні суседзі, ні паліцыя, ні будучыя ахвяры...




**Сямашка Віктар. Ромб. Шэсць вершаваных цыкляў: Ромб. НаросХрыст. Deadline. Цені кветак. Збожжа. Дамба. – Беласток, 2018. – 144 с.**

У сваёй чацвертай па ліку кнізе паэта-авангардыста Віктар Сямашка ва ўласцівай яму манеры аналізуе ды інтэрпрэтуе рэчаіснасць і ўласнае жыццё з дапамогай інструментаў прыродазнаўства, этнаграфіі, астраноміі, сацыялогіі ды іншых дысцыплінаў. Шэсць прадстаўленых вершаваных цыклаў напісаныя цягам 2012–2014 гг. і канцэптуальна перагукаюцца між сабой. Цыклы можна ўмоўна падзяліць на дзве тройкі (альбо «звышцыклы») аналагічна з чаргаваннем трох рэвалюцыяў у беларускім мастацтве XX ст., кожная з якіх складаецца з дзвюх дынамічных фазаў і аддзяляецца адна ад адной у меру статычным перыядам.




**Бернард Шоў. Пігмаліён. Пер. з англ. Уладзіміра Палупанава і Лявона Баршчэўскага. – Мінск: Выдавец Зміцер Колас, 2018. – 136 с. (Драматургі свету).**

Мастацкі свет знакамітай п'есы «Пігмаліён» Джорджа Бернарда Шоў (1856–1950), англійска-ірландскага драматурга, лаўрэата Нобелеўскай прэміі, сатканы з парадоксаў і неверагодных метамарфозаў. Простыя ісціны ён даказвае «ад адваротнага», пераказваючы сюжэт вядомага старагрэцкага міфа «навыварат»... У адрозненне ад вядомых нашаму масаваму чытачу рускіх перакладаў п'есы, гэты пераклад зроблены паводле поўнага англійскага выдання, з захаваннем аўтарскіх прадмовы, пасляслоўя і ўставак.




**Вальеха Сэсар. Выбраныя творы. Пер. з іспанскай Р. Барадуліна. – Мінск: Выдавец Зміцер Колас, 2018. – 108 с. (Паэты планеты).**

Сэсар Вальеха (1892–1938) нарадзіўся і гадаваўся ў Перу, пісаў на іспанскай мове. Значную частку жыцця правёў у Парыжы, што не перашкодзіла яму зрабіцца адным з самых знакамітых лацінаамерыканскіх паэтаў XX стагоддзя.




**Буценеў М.А. Хронікі сям'і Храптовічаў-Буценевых. – Мінск: Галіяфы, 2018. – 246 с.**

Міхаіл Апалінар'евіч Буценеў нарадзіўся ў 1919 годзе ў Ялце, куды бацькі яго з'ехалі з Масквы пасля рэвалюцыі. Яму не было года, калі яго сям'я з'ехала ў Аўстрыю праз Канстанцінопаль; пазней яны пераехалі ў Францыю, дзе сабраліся многія члены іх вялікай сям'і. У 1934 годзе ўсе перабраліся ў Польшчу, дзе захаваўся фамільны маёнтак Шчорсы на мяжы з Савецкім Саюзам. У Варшаве М.А. Буценеў атрымаў атэстат сталасці. Буценевы пражылі ў Польшчы да 1939 года, пакуль вайна іх усіх не раскідала. М.А. Буценеў апынуўся ў Германіі, дзе вучыўся міжнароднай эканоміцы, і ўрэшце ў 1944 годзе пераехаў у Францыю. У Парыжы працаваў у Міжнароднай арганізацыі дапамогі эмігрантам, якая і перавезла яго разам з жонкай і дзецьмі ў Амерыку, у Нью-Ёрк. Спачатку ён нядоўга працаваў на фабрыцы, аднак затым уладкаваўся ў банк, дзе спецыялізаваўся на міжнароднай эканоміцы і вандраваў па ўсёй Еўропе, Афрыцы і Блізкім Усходзе (ён размаўляў на шасці мовах). Памёр Міхаіл Апалінар'евіч у 1992 годзе.




**Інеўска Э., Мельнікаў І. Доўбарчыкі з Бабруйскай крэпасці: альбом. – Мінск: Галіяфы, 2018. – 168 с.**

Па ініцыятыве Вярхоўнага польскага вайсковага камітэта 6 жніўня 1917 года камандзірам наваствoранага I Польскага корпуса ў Расіі стаў генерал Юзаф Доўбар-Мусніцкі, выдатны стратэг. Корпус неўзабаве раскватараваўся ў Бабруйскай крэпасці, вяртаючы ёй страчаны бляск. Гісторыя адважных жаўнераў «Доўбарчыкаў» – гэта таксама гісторыя Бабруйска, у якую ўпісаліся імёны такіх герояў, як Уладзіслаў Андэрс, Ян Скарына або будучы герой абароны Брэсцкай Крэпасці – Канстанцін Плісоўскі. Хроніка гэтай вайсковай адзінкі незвычайная, бо салдаты генерала Доўбара пазней занялі ганаровыя месцы ў гісторыі многіх заслужаных воінскіх часцей, якія змагаліся з нацыстамі на многіх франтах Другой сусветнай вайны. Гэты альбом прысвечаны не толькі гісторыі Бабруйскай крэпасці, якой Доўбарчыкі вярнулі пышнасць, але, перш за ўсё, постаці многіх мужных і адважных польскіх салдат, сыноў зямлі беларускай.




**Сяргей Навумчык. Дзевяноста другі. (Бібліятэка Свабоды. XXI стагодзьдзе.) – Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2017. – 388 с.: іл.**

У 1992-м, першым поўным годзе незалежнасці, Беларусь мусіла выбіраць паміж невядомай дэмакратычнай будучыняй і знаёмай савецкай стабільнасцю. Драматычная гісторыя барацьбы за рэфэрэндум аб новых выбарах, калі камуністычная наменклатура перакрэсліла 446 тысячаў подпісаў грамадзянаў.




**Сяргей Навумчык. Дзевяноста трэці. (Бібліятэка Свабоды. XXI стагодзьдзе.) – Радыё Свабодная Эўропа/Радые Свабода, 2018. – 536 с.: іл.**

У пятым томе хронікі новай беларускай дзяржаўнасці канца XX стагоддзя аднаўляецца ва ўсёй вастрыні барацьба ў парламенце за і супраць вайсковых саюзаў, за энергетычную незалежнасць і супраць увядзення прэзідэнцтва, ашаламляльныя здабыткі і паразы нацыянальнага адраджэння і дэмакратыі, галоўныя дзейныя асобы і драматычныя наступствы іх выбару для свабоды – 1993 год вачыма ўдзельніка, дэпутата Вярхоўнага Савета Беларусі (1990–1995). Папярэднія кнігі цыклу – «Дзевяноста першы», «Дзевяноста чацверты», «Дзевяноста пяты» і «Дзевяноста другі».




**Лыч Генадзь. Перад лёсавызначальным выклікам: роздум. – Санкт-Пецярбург: Выдавецтва «Неўскі прастор», 2018. – 196 с.**

Кніга прысвечана праблеме захавання дзяржаўнай незалежнасці Беларусі і выжывання беларускага народа як самастойнага этнасу. Яна пачынаецца экскурсам у гісторыю фармавання савецкай дзяржавы, трансфармацыі бальшавіцкай дыктатуры ў сталінскі таталітарызм і абгрунтоўваецца яго згубнасць для грамадства і краіны. Паказаны перажыткі сталінскага таталітарызму, якія захаваліся ў сучаснай беларускай дзяржаўнасці. Асноўная ўвага нададзена аналізу ўзаемаадносінаў паміж дзяржавай, грамадзянскай супольнасцю і індывідуумам, па выніках якога зроблена выснова, што яны супярэчаць патрабаванням часу. Прапанаваны меры па забеспячэнні ўстойлівага палітычнага, сацыяльна-эканамічнага і нацыянальна-культурнага развіцця краіны, абгрунтавана жыццёвая неабходнасць іх неадкладнага здзяйснення.




**Струменскі Сымон. Военачальнікі з Беларусі (XVIII–XX стст.): біяграфічны даведнік. – Мінск: Зміцер Колас, 2018. – 316 с. [4 л.] іл.**

Гэта кніга – зборнік біяграфічных нарысаў пра военачальнікаў, генералаў і адміралаў, якія нарадзіліся ў Беларусі або продкі іх паходзяць з нашай краіны. Нарысы згрупаваны па гістарычных тэмах. Пры падборы асобаў аўтар не звяртаў увагі на іх веравызнанне, нацыянальнасць, сацыяльнае паходжанне і партыйнасць, хоць і даецца такая інфармацыя. Звярталася ўвага на іх ролю ў гісторыі той ці іншай дзяржавы. Гэтыя военачальнікі – самі ўдзельнікі многіх гістарычных падзеяў. Яны самі тварылі гісторыю сваёй краіны або суседніх краінаў. Таму ў кнігу трапілі чырвоныя і белыя, бальшавікі і іх праціўнікі, нашы патрыёты і іх ворагі. Некаторыя военачальнікі ваявалі і на адным, і на другім варожым баку. Большасць генералаў і адміралаў невядомыя нашым чытачам, бо пра іх раней нічога не пісалі.




**Мельнікаў Андрэй. Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч: За 130 гадоў да Кустурыцы. – Мінск: «Харвест», 2018. – 64 с.: малюнкі. – (Серыя «100 выдатных дзеячаў беларускай культуры»).**

Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч (1808–1884) быў адным з пачынальнікаў новай беларускай літаратуры і «бацькам» беларускай драматургіі. Ён увайшоў у гісторыю як адзін з найбольш яскравых і ўплывовых дзеячаў нашай культуры сярэдзіны XIX стагоддзя.




**Тарас Анатоль. Кастусь Тарасаў: Знаўца і настаўнік айчыннай гісторыі. – Мінск: «Харвест», 2018. – 64 с. – (Серыя «100 выдатных дзеячаў беларускай культуры»).**

Кастусь Тарасаў (1940–2010) – празаік, эсэіст і публіцыст, які пісаў на рускай і беларускай мовах. Яго пяру належаць каля дваццаці гістарычных і дэтэктыўных аповесцяў, некалькі навукова-папулярных гістарычных твораў, шэраг апавяданняў, эсэ, нарысаў. Ва ўсіх іх гаворка ідзе пра падзеі беларускай гісторыі. К. Тарасаў – адзін з уладароў думак нацыянальна свядомых грамадзянаў краіны.




**Кіркевіч Алесь. Сем месяцаў у беларускай турме. – Мінск, 2018. – 162 с.: іл. – (Серыя «Беларуская турэмная літаратура»; вып. 4).**

Турэмныя ўспаміны палітвязня Алеся Кіркевіча друкуюцца ўпершыню, хоць яшчэ ў 2013 г. іх электронны варыянт пад назвай «Нясконачаная Адысея: Беларуская турма для пачынаючых» быў адзначаны прэміяй імя Францішка Аляхновіча за найлепшы твор, напісаны ў зняволенні.

Удзельнік Плошчы-2010, тагачасны намеснік старшыні «Маладога фронту» Алесь Кіркевіч 28 студзеня 2011 г. быў арыштаваны і змешчаны ў СІЗА КДБ па абвінавачванні ва ўдзеле ў масавых беспарадках паводле ч. 2 арт. 293 КК Беларусі. Моладзевы актывіст трапіў за краты літаральна праз тыдзень пасля вяселля.

4 студзеня 2011 г. Алесь Кіркевіч выйшаў на волю пасля адбыцця адміністрацыйнага 10-суткавага арышту за пікет салідарнасці пад сценамі ізалятара на вул. Акрэсціна ў Мінску, дзе ў гэты час знаходзілася яго нявеста Надзея Крапівіна, асуджаная на 12 сутак за ўдзел у акцыі пратэсту 19 снежня. Яны пабраліся шлюбам 22 студзеня, толькі замест вясельнага падарожжа маладым выпала сур'ёзнае выпрабаванне.

3 траўня 2011 г. Алесь Кіркевіч асуджаны на 4 гады пазбаўлення волі ў калоніі ўзмоцненага рэжыму. Пакаранне адбываў у Навапалацкай калоніі № 10. Памілаваны згодна з Указам прэзідэнта 1 верасня 2011 г.

Алесь Кіркевіч нарадзіўся ў 1989 г. у Гродне. Працуе журналістам. Лаўрэат конкурсу маладых журналістаў імя Аляксея Караля ў намінацыі «Найлепшы грамадска-палітычны артыкул» (2017).




**Мусял Богдан. Савецкія партызаны ў 1941–1944 гг. Міфы і рэчаіснасць. Пераклад з нямецкай мовы Уладзіміра Папковіча, нав. рэд. Уладзімір Калаткоў. – Смаленск: Інбелкульт, 2018. – 592 с.**

У гэтай працы на прыкладзе Беларусі шырока даследуецца гісторыя савецкага партызанскага руху ў час Другой сусветнай вайны. Робіцца гэта на аснове крыніцаў з беларускіх, расійскіх, нямецкіх, а таксама часткова польскіх і літоўскіх архіваў, якія да гэтага часу не былі ўведзеныя ў шырокі навуковы ўжытак. У кнізе храналагічна рэканструюецца развіццё савецкага партызанскага руху ў Беларусі ад яго пачатку летам 1941 г. да роспуску летам 1944 г., а таксама аналізуюцца яго сацыяльна-гістарычныя ды этнічныя аспекты. Акрамя пытанняў, на якіх традыцыйна акцэнтуюць увагу беларускія даследчыкі, аўтар кнігі не абыходзіць увагай і тыя праблемы, якія традыцыйна лічацца на постсавецкай прасторы «нязручнымі». Выданне прызначана для ўсіх, хто цікавіцца гісторыяй Другой сусветнай вайны.




**Кананові Уладзімір. Рыцар на полі. Клецк, жнівень 1506 г.: гісторыка-антрапалагічнае даследаванне. – Смаленск: Інбелкульт, 2017. – 410 с.**

У кнізе рэканструюецца ход і характар бітвы пад Клецкам 1506 г., якая была адной з найбольш важных і знакамітых у вайсковай гісторыі Вялікага Княства Літоўскага. Гэтая падзея разглядаецца на фоне агульнага ваенна-палітычнага становішча ва Усходняй Еўропе на мяжы XV–XVI стст. Даследаванне праведзена з выкарыстаннем метаду гістарычнай антрапалогіі: адзін з яго раздзелаў уяўляе сабой палітычную біяграфію галоўнага героя бітвы пад Клецкам Міхаіла Глінскага, не абмінутыя таксама ўвагай і іншыя найбольш яркія палітычныя постаці тагачаснай дзяржавы Ягелонаў. Акрамя таго, аналізуецца гісторыя стварэння памяці пра Клецкую бітву 1506 г.: складванне вобразу бітвы, а таксама яе галоўнага героя, у свядомасці сучаснікаў і нашчадкаў, а таксама трансфармацыя гэтага вобразу на працягу стагоддзяў.

Кнігі можна замовіць ці набыць па наступных адрасах:

**«Акадэмічная кніга»,** г. Мінск, пр-т Незалежнасці, 72; e-mail: akademknigaminsk@mail.ru, тэл.: +375 17 292 00 52, 292 46 52, 292 50 43, **«Кнігарня пісьменніка»** (вул. Казлова, 2), **«Веды»** (вул. К. Маркса, 36), **«Светач»** (пр-т Пераможцаў, 11), **«Цэнтральны кніжны»** (пр-т Незалежнасці, 19), **«Кніжная Шафа»** (пр-т Дзяржынскага, 9), **«Кнігі & кніжачкі»** (пр-т Незалежнасці, 14), **Кніжная выстава-кірмаш «Мир книг»** (пр-т Пераможцаў, 84).

А таксама ў інтэрнэт-крамах: knihi.by, prastora.by, imbryk.by, januskevic.by, bookstore.lohvinau.by, kniharnia.by і halijafy.by.

# Прэмію Гедройца 2018 атрымаў Уладзімір Арлоў

**Увечары 11 кастрычніка ў мінскім Палацы мастацтваў былі абвешчаныя імёны лаўрэатаў літаратурнай прэміі за найлепшую празаічную кнігу. Першае месца атрымаў Уладзімір Арлоў за выданне «Танцы над горадам», другое – Альгерд Бахарэвіч за «Сабак Эўропы», трэцяе – Вінцэсь Мудроў за зборнік «Забойца анёла».**

На прэмію Гедройца сёлета былі намінаваны 32 кнігі. У шорт-ліст прэміі ўвайшлі: Уладзімір Арлоў. Танцы над горадам. Логвінаў, Мінск.; Альгерд Бахарэвіч. Сабакі Эўропы. Логвінаў, Мінск.; Адам Глобус. Сям'я. Мастацкая літаратура, Мінск.; Вінцэсь Мудроў. Забойца анёла. Кнігазбор, Мінск.; Павел Севярынец. Беларусалім. ФОП Серадняк Т.К., Днепр. Украіна.; Анка Упала. На заснежаны востраў. Выдавецтва Янушкевіч, Мінск.

У журы сёлета працавалі Валянцін Акудовіч, Ала Брадзіхіна, Ганна Бутырчык, Пятро Васючэнка, Сяргей Кавалёў, Марына Казлоўская, Ціхан Чарнякевіч.

Суарганізатарамі прэміі, якая ўручаецца з 2011 года, з'яўляюцца Беларускі ПЭН-цэнтр і Саюз беларускіх пісьменнікаў пры падтрымцы Польскага Інстытута ў Мінску.

**Прэсавая служба СБП**






■ АЎТОГРАФ

# «Мастак мусіць быць суаўтарам пісьменніка...»

(Пачатак на стар. 1)

**– Вы выкладаеце гісторыю мастацтва ў сярэдніх спецыяльных і вышэйшых навучальных установах (на факультэце журналістыкі Белдзяржуніверсітэта і ў Гімназіі-каледжы мастацтваў імя І. В. Ахрэмчыка). Чым цікавіцца сучасная моладзь, Вашыя вучні і студэнты? Якое месца ў іх жыцці займае літаратура і мастацтва?**

– Калі толькі пайшла выкладаць, зразумела, што сярод маіх вучняў маю больш аднадумцаў, сяброў, чым сярод свайго пакалення. Яны шмат падарожнічаюць, шмат чытаюць, думаюць, не асцерагаюцца выказваць свае думкі, умеюць любіць, кахаць, марыць. І, мяркуючы па курсавых і дыпломных працах, яны разумеюць мае творы і творы тых, хто захапляе мяне. Хаця сярод студэнтаў на журфаку ў мяне ёсць і вельмі салідныя людзі. Напрыклад, аднаму майму дыпломніку (ён падпісваецца Сымон Ганак) было 72 гады. Вельмі чакаю, калі ягоныя творы выйдуць у свет. А на маёй электроннай пошце ляжаць творы тых, каму няма і дваццаці. Мне надзвычай цікава жыць.

**– Паколькі наша выданне прысвечана кнігам, не магу не спытаць Вас як мастацтвазнаўцу пра мастацкае афармленне сучасных кніг. Ці не падаецца Вам, што прафесія кніжнага графіка канчаткова памерла, мяркуючы па тым, як шэра і невыразна афармляецца цяпер большасць вокладак кніг, а ілюстрацый у кнігах амаль зусім не стала. Гэта ўплыў інтэрнэту ці ўсё ж нешта іншае?**

– Згодная, гэта праблема з праблем. Цяпер вельмі шмат мастакоў-прафесіяналаў. На праглядах, абаронах дыпломных работ яны экспануюць выдатныя ілюстрацыі, афармленне кніг, штосьці выдаецца, высока адзначана на Міжнародных конкурсах, нашых мастакоў запрашаюць афармляць кнігі за мяжу. Проста, калі кніга рыхтуецца да друку, трэба адразу запрашаць мастака. Ён мусіць быць суаўтарам пісьменніка. І не шкадаваць на гэта сродкаў. Кніга мусіць быць прывабнаю, яна можа інтрыгаваць і юных чытачоў, і дарослых. Кніга запрашае нас у падарожжа, не віртуальнае, а рэальнае. Усе мы шмат гаворым пра тое, што нашы сучаснікі больш звыклыя не да вярбальнай, а да візуальнай інфармацыі. І кнігавыдаўцы мусяць іх падтрымаць, нас падтрымаць. Будзьма разам! І да сустрэч.

## «ДЗЕЯСЛОЎ» РАІЦЬ




**Уладзімір Папковіч. Зазімак. – Мінск: Кнігазбор, 2018. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка»; вып. 105). – 156 с.**

Новая кніга паэта прыйдзецца даспадобы аматарам класічнай рыфмаванай традыцыі, сур'ёзнай філасофскай тэматыкі, тонка аздобленай доляй іроніі і самаіроніі. У вобразе лірычнага героя, сталага чалавека, які азіраецца назад і падобраму пакепլівае з сябе маладога, многія могуць пазнаць сябе. І ў адначассе ў гэтым зборніку шмат прыватнасці, шмат асабістага. Нават калі Уладзімір Антонавіч піша пра вёску – а гэтая тэматыка найбольш звыклая і кансерватыўная для беларускай паэзіі, – ён робіць гэта настолькі па-свойму, інтымна, з вышыні свайго жыццёвага досведу, што гэта сапраўды кранае. Поруч з адмыслова беларускай прывязанасцю да сваёй зямлі, «укаранёнасцю» ў крэўныя сувязі, свойскасцю можна знайсці ў зборніку і матыў падарожжа. Нездарма ж архетыповы вечны вандроўнік ужо колькі стагоддзяў вывучае дарогі еўрапейскай літаратуры!

Люблю падацца ў белы свет,
У шлях нязнаны і няблізкі,
Купіць да пункта Х білет,
Жыць без нагляду і прапіскі.

Пакінуўшы свой родны дах,
Пакуль душа зноў не заные,
Павандраваць па гарадах,
Дзе ёсць музеі і піўныя.

Худым, счарнелым, з барадой
Вярнуцца і паспавядацца...
Піць роднай мовы сырадой
І ад зласліўцаў адбівацца.




**Уладзімер Арлоў. Паручнік Пятровіч і прапаршчык Здань. – Мінск: Кнігазбор, 2018. – (Бібліятэчка часопіса «Дзеяслоў»; вып. 23). – 252 с.**

Не паспеўшы выйсці, новая кніга Уладзімера Арлова, што нячаста здараецца з кнігамі паэзіі, прыцягнула ўвагу крытыкаў. «Балады Арлова – гэта спрэс асацыяцыяі, сімвалы, шырокая геаграфія, перанаселенасць, і ўсё аздоблена іроніяй... Але найбольш уражвае не эрудыцыя аўтара ці паэтычны досціп, а ўменне ўпарадкаваць хаос, які творыцца наўкол і адбіваецца ў паэзіі Арлова. Здаецца, ён адразу скарыўся хаосу. І хаос адказаў тым жа. Як дзікі звер, які адчуў, што яго не збіраюцца прыручаць, заспакоіўся і дазволіў даследаваць сябе. Ад пухнатай і мяккай грывы – да смертаносных іклаў...» (Наста Грышчук). «Усіх сваіх герояў Арлоў нібыта ўсаджвае за адзін вялікі стол з шырокім алкагольным асартыментам: грапа, франкоўка, тарапака, пазней з'яўляецца гвірабі і кава "з вогніком" – атрымліваецца поўны гастракалейдаскоп. Апісанняў ежы ў баладах вобмаль, алкаголю – багата. Усё проста: героі Арлова даўно пераплылі разам з Харонам свой Стыкс, таму ў ежы не маюць патрэбы, а вось выпіць заўжды гатовыя, так весялей...» (Алесь Кіркевіч).

## КАНТАКТЫ

Пададзеныя ў бюлетэні кнігі
Вы можаце замовіць непасрэдна ў выдаўцоў
па наступных кантактах:

Кніжныя серыі:
**«Бібліятэчка «Дзеяслова»,**
**«Кнігарня пісьменніка»,**
**«Бібліятэка «Бацькаўшчыны»,**
e-mail: knihanosza@gmail.com,
тэл.: +375 17 200 70 27

**«Гарадзенская бібліятэка»,**
e-mail: dzmuchavec@gmail.com,
тэл.: +375 29 133 87 17

**ІП «Логвінаў»,**
e-mail: lohvinaupress@gmail.com,
тэл.: +375 29 667 47 57

**ПУП «Кнігазбор»,**
e-mail: bkniha@tut.by,
тэл.: +375 29 772 19 14

**ІП «Уладзімір Сіўчыкаў»,**
e-mail: siuchykau@gmail.com,
тэл.: +375 44 561 05 28

**СТАА «Медысонт»,**
e-mail: medisont@gmail.com,
тэл.: +375 29 623 74 10

**Выдавецтва «Галіяфы»,**
e-mail: vish@bk.ru,
тэл.: +375 29 678 68 06

**Выдавецтва «Лімарыус»,**
e-mail: limarius@yandex.ru,
тэл.: +375 29 679 33 36

**ІП «Зміцер Колас»,**
e-mail: zkolas@gmail.com,
тэл.: +375 29 623 35 65



ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ
КНІГА НОША
№ 52
кастрычнік, 2018
ЗАСНАВАЛЬНІКІ: ГА"САЮЗ БЕЛАРУСКІХ ПІСЬМЕННІКАЎ", МГА"ЗБС"БАЦЬКАЎШЧЫНА"

**Інфармацыйны бюлетэнь МГА «ЗБС «Бацькаўшчына» і ГА «Саюз беларускіх пісьменнікаў».**
Распаўсюджваецца на правах унутранай дакументацыі.
Наклад 299 асобнікаў. № 52 14.11.2018.
Адказны за нумар – Алесь Сачанка.
Адрас рэдакцыі: г. Мінск, вул. Кузьмы Чорнага, 31-906, 220012, тэл./факс: (+375 17) 200 70 27.
E-mail: knihanosza@gmail.com